**СОНЦА:**
Усход, захад, даўжыня дня:
Мінск — 5.51, 20.35, 14.44;
Віцебск — 5.37, 20.28, 14.51;
Магілёў — 5.41, 20.24, 14.43;
Гомель — 5.44, 20.15, 14.31;
Гродна — 6,09. 20.47, 14.38;
Брэст — 6.12, 20.45, 14.33.

**МЕСЯЦ:**
Поўня 13 жніўня.

**ІМЯНІНЫ:**
Еўсцігнея, Ноны;
Ілоны, Браніслава



# ЗВЯЗДА

18 ЖНІЎНЯ 1992 г.
аўторак, № 163 (21941)

• выдаецца са жніўня 1917 г. • БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1 рубель

## РОЗГАЛАС

### ШТО РАБІЦЬ З «ХЛЕБНЫМІ» ЗЛАДЗЕЯМІ?

**Чарговае павышэнне цэн, вядома, не выклікала асаблівага энтузіязму ў большасці насельніцтва нашай рэспублікі. Мініапытанне, праведзенае з гэтай нагоды, дае, праўда, надзею, што мы перажывём і сённяшнія цэны на хлеб і малако.**

**Ніна ЦІМАФЕЕВА, работніца малога прадпрыемства:** «Ведаеце, я ўжо прывыкла. Гэта раней мы вохкалі ад кожнага павышэння, а цяпер ўспрымаем як больш-менш нармальную з'яву. Кажуць, раней лепш было жыць. Яно, можа, і лепш, але атрымліваў свае 220 р. у месяц, і ўсё, крычы ні крычы. А для мяне, няхай хлеб у тры разы даражэй, але ёсць магчымасць цяпер зарабляць грошы. Апошнія ж літаральна пад нагамі валяюцца. Проста многія лянуюцца нагнуцца і падняць».

**Мікалай САПУН, механізатар:** «Пры цяперашніх цэнах на ўгнаенні, запчасткі да сельскагаспадарчай тэхнікі, цана на хлеб суадносная. Трэба прывыкаць—адно скажу».

**Аляксандр НЯФЕДАЎ, пенсіянер:** «Раней можна было на хлебе не эканоміць. Цяпер прыйдзецца кожны кавалак лічыць. Можа, гэта і правільнае рашэнне, але няхай тады інвалідам і пенсіянерам якія-небудзь ільготныя карткі на хлеб і малако прыдумаюць. Інакш жа перамром, як мухі».

**Сяргей РАЧЫЛА, супрацоўнік прэс-службы УУС Мінгарвыканкома:** «Зусім нядаўна з'явіўся яшчэ адзін від крадзяжу — крадзеж хлеба. Пасля павышэння цэн, думаю, ён стане яшчэ больш распаўсюджаным. Хоць кралі хлеб, здаецца, толькі пасля рэвалюцыі і Айчыннай вайны. Што рабіць з «хлебнымі» зладзеямі, у першую чаргу павінна думаць не міліцыя, а наш урад».

### Зноў смела ў бой?

У Пружанах адбыўся партыйны сход камуністаў раёна. Прысутнічалі каля 50 чалавек, пераважна людзей старэйшага пакалення. Быў заслуханы даклад аб бягучым моманце і задачах камуністаў, абраны палітвыканком і рэвізійная камісія раённай партыйнай арганізацыі.

### Багатыя заплачуць, калі працверазеюць

Цана за паслугі ў асіповіцкім медвыцвярэзніку цяпер знаходзіцца ў прамой залежнасці ад заработнай платы кліента. Напрыклад, калі заробак не перавышае 3 тысячы рублёў, «выцверажэнне» абыдзецца ў 500 рублёў. Пры заробку ад 3 да 6 тысяч цана абслугоўвання ўзрасце да 1 тысячы за «сеанс», ад 6 да 9 тысяч — паўтары тысячы, а трапіўшы ў медвыцвярэзнік кліент з даходамі звыш 9 тысяч рублёў павінен будзе выкласці 2 тысячы.

### Хопіць толькі на пахаванне?

На пачатак ліпеня сярэдняя сума ўкладаў у касах Ашчадбанка ў Драгічынскім раёне складала 3.178 рублёў. У пенсіянераў гэты паказчык звычайна напалову меншы.

**БелаПАН.**



**Ірына Іванаўна РЭУЦКАЯ — галоўны аграном калгаса «Чырвоны сцяг» Дзяржынскага раёна. Працуе ў гаспадарцы пяты год. Тут яе ведаюць як добрасумленнага чалавека і граматнага спецыяліста, які не шкадуе свайго часу і намаганняў дзеля агульнай справы. Жніво на калгасных палетках завяршылі своечасова і без страт. У гэтыя дні поўным ходам ідзе назапашванне кармоў і падрыхтоўка да сяўбы азімых.**

**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

*Станіслаў ШУШКЕВІЧ:*

## КРЫТЫКУЕ БАРЫСА ЕЛЬЦЫНА І ЛЕАНІДА КРАЎЧУКА,

## ТЛУМАЧЫЦЬ, ЧАМУ ЁН СУПРАЦЬ НЕАДКЛАДНАГА ЎВЯДЗЕННЯ ПРЭЗІДЭНЦКАГА КІРАВАННЯ,

## ВЫКАЗВАЕЦЦА ЗА ЎМАЦАВАННЕ Ў ЭКАНОМІЦЫ ЭЛЕМЕНТАЎ ПЛАНАВАЙ ГАСПАДАРКІ.



**Са Старшынёй Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Станіславам Шушкевічам гутарыць карэспандэнт агенцтва «Інтэрфакс».**

**— Станіслаў Станіслававіч! 20 ліпеня гэтага года ў Маскве быў падпісаны шэраг пагадненняў паміж урадамі Беларусі і Расіі. У сваіх выступленнях члены Кабінета міністраў нашай рэспублікі, прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч не раз падкрэслівалі, што гэтыя дакументы ні ў якім выпадку не трэба разглядаць як ваенны саюз Беларусі з Расіяй. Аднак многія палітычныя назіральнікі адзначаюць, што некаторыя элементы такога саюза ўсё ж ёсць у цяперашніх адносінах паміж нашымі дзяржавамі. Як вы лічыце, ваенна-палітычны саюз існуе?**

— Так, існуе. Галоўная прычына гэтага — спадчына, якая дасталася нам ад былога СССР, — магутнейшы ваенна-прамысловы комплекс і вялікія эканамічныя сувязі з Расіяй. За апошні час некаторыя рэспублікі ў той ці іншай ступені адышлі ад гэтага саюза, але яго ядро, куды ўваходзіць і Беларусь, у пэўнай якасці захавалася. Адразу нічога ў гэтай магутнай сістэме змяніць немагчыма. Трэба вырашыць, як лепш пераходзіць з гэтага стану ў той, які ў нас дэклараваны. Я маю на ўвазе дасягненне рэспублікай дзяржаўнага нейтралітэту і бяз'ядзернасці. Максімальны тэрмін пераходнага перыяду вызначаны міжнароднымі абавязацельствамі — не больш сямі гадоў.

Што ж тычыцца двухбаковых дамоўленасцей, то тут пачаўся пэўны беспарадак, які мне не па душы.

**— Напрыклад, дамоўленасці паміж прэзідэнтамі Расіі і Украіны адносна лёсу Чарнаморскага ваенна-марскога флоту?**

— Я вітаю, што ў значнай меры гэтае пытанне вырашана, напружанасць у сітуацыі знята. Але Краўчук і Ельцын раней падпісалі пагадненні ў рамках СНД (закранаючыя рэгуляванне праблем падзелу маёмасці былога СССР — **В. З.**), а дагавор па Чарнаморскаму флоту супярэчыць іх артыкулам! Я нават схільны да таго, што можна змяніць артыкулы ранейшых пагадненняў, але нельга ж імі пагарджаць!

У нашым друку ўжо паведамлялася, што апазіцыя Беларускага народнага фронту выступіла з заявай аб тым, што двухбаковыя пагадненні паміж урадамі Беларусі і Расіі ў значнай ступені не адпавядаюць дакументам, якія прыняў наш парламент. Устрымаюся ад падтрымкі заявы апазіцыі, гэта трэба старанна праверыць, і такія даручэнні ўжо дадзены. Але некаторыя фармулёўкі заключаных пагадненняў прымушаюць задумацца. У двухбаковых дагаворах не захоўваюцца тэндэнцыі, абазначаныя ў пагадненнях СНД. У гэтым я бачу вялікую шкоду.

**— Наколькі гэта небяспечна?**

— Лічу, што ніякай ракавой небяспекі тое, што адбылося, не стварыла. Таму я нават не быў гарачым прыхільнікам вядомай усім заявы Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі наконт гэтага.

Небяспека крыецца ў тэндэнцыі падпісваць палажэнні, якія супярэчаць раней прынятым дакументам. Я, напрыклад, не маю права і ніколі не падпішу ні адно міжнароднае пагадненне ад імя Беларусі, якое ўступае ў супярэчнасць з падпісанымі мной жа іншымі міжнароднымі дакументамі, ратыфікаванымі парламентам, або без гэтага ўступіўшымі ў дзеянне.

Калі адпаведныя юрыдычныя службы пры выпрацоўцы дакументаў не заўважаюць і прапускаюць гэтыя супярэчнасці, а іх, на мой погляд, проста немагчыма прапусціць ва ўказаных дакументах, значыць, гэтыя службы трэба разганяць. Але калі яны ўказваюць на супярэчнасці, а кіраўнік усё роўна падпісвае дакументы з неадпаведнасцю, я баюся, што кіраўнік бярэ на сябе больш, чым павінен узяць. Прынамсі, я для гэтага шукаў бы механізм узгаднення па дыпламатычных каналах, а яны не працуюць. У гэтай сітуацыі зноў заўважаю жаданне кагосьці быць старэйшым, а кагосьці малодшым братамі. Я гэта ўспрымаю адмоўна.

**— Станіслаў Станіслававіч! Вы — кіраўнік дзяржавы. У вас ёсць свая «каманда», такая, напрыклад, якая ёсць у Ельцына, была калісьці ў Гарбачова?**

— Ельцына выбіралі Прэзідэнтам Расіі ўсенародна. У яго яшчэ да гэтага сфарміравалася каманда аднадумцаў, якая падтрымлівала яго лінію. Мяне ж выбіралі дэпутатам Вярхоўнага Савета, а ўжо потым парламент выбраў сваім Старшынёй. Натуральна, што калі мяне не выбіралі кіраўніком Вярхоўнага Савета, не было той групы дэпутатаў, якая горача б мяне не падтрымлівала. Проста, на той момант мая праграма, у адрозненне ад іншых, аказалася найбольш удалай. Таму, у некаторым сэнсе, мая каманда — Вярхоўны Савет. У мяне была выдатная каманда, яна існуе і сёння. Пераважна, гэта ўніверсітэцкія супрацоўнікі, людзі, што аб'яднаны ідэяй і праграмай, якая сёння амаль выканана. Падкрэсліваю: тая праграма, якая мне здавалася праграмай-максімум і з якой я ішоў на выбары, практычна выканана.

Я ганаруся сваёй камандай. Тыя аналітычныя запіскі, якія пішуць яе члены, — цудоўныя. У мяне ёсць вельмі граматная каманда саветнікаў па эканамічных пытаннях. Раней яны пісалі мне, можна сказаць, на грамадскіх пачатках, а цяпер — па кантракту.

**— Вы можаце назваць іх прозвішчы?**

— Не буду гэтага рабіць, таму што не хачу, каб іх «абмывалі» на кожным рагу, маўляў, «даюць Старшыні дрэнныя парады».

У маю каманду ўваходзяць некаторыя акадэмікі былога СССР, беларускія акадэмікі, інжынеры, спецыялісты Дзяржэканомплана. Мне з імі прыемна працаваць і, даруйце за непарламенцкі выраз, я сваю каманду «не залажу».

Зусім хутка я паеду ў Паўднёвую Карэю. Аналіз, які зрабілі члены маёй каманды, паказвае, што гэта дзяржава дасягнула вялікіх поспехаў у эканоміцы дзякуючы таму, што з 1954 па 1964 год яна выпрацавала два пяцігадовыя планы, якія вызначылі фундамент сучаснага «эканамічнага цуда». Я хачу дэталёва разабрацца, што гэта былі за пяцігодкі.

Размова ідзе не аб вяртанні ранейшага: «Пяцігодку за 4 гады!» З гэтымі недарэчнасцямі трэба канчаць, не аб праграме накшталт «500 дзён». Трэба выпрацаваць разумны агульны і дэталёвы пяцігадовы план перспектыўнага развіцця, абазначыць вехі, карэкціраваць дзейнасць з улікам вынікаў года, адпраўляць у адстаўку тых, хто не здольны рэалізоўваць такую праграму.

У нас ужо ёсць структура, якая здольна накіраваць дзяржаву ў патрэбнае рэчышча, — Дзяржаўны камітэт па эканоміцы і планаванню. Пакуль поўнасцю яго магчымасці не выкарыстоўваюцца. Гэта безгаспадарчасць. Там жа — разумныя супрацоўнікі!

**— А як наконт прыцягнення саветнікаў для Старшыні Вярхоўнага Савета з развітых капіталістычных краін? Наколькі мне вядома, Пасол ФРГ у Беларусі пан Райнхарт Краус вам ужо прапаноўваў паслугі вядучых германскіх спецыялістаў?**

— Сапраўды, з такой прапановай ён да мяне звяртаўся. Але мы пойдзем па іншаму шляху: створым гуманітарны фонд, з дапамогай якога будзем адпраўляць нашых спецыялістаў на вучобу ў тую ж Германію, або будзем прыцягваць спецыялістаў з ФРГ для кансультавання нашых работнікаў у Беларусі.

Вы ведаеце, маючы неаднаразовыя асабістыя гутаркі з многімі кіраўнікамі розных дзяржаў, тагачаснымі буйнейшымі палітыкамі, высокага ўзроўню эканамістамі, прыходжу я да вываду: яны абсалютна не разумеюць, што адбываецца ў беларускай эканоміцы. Я ўсё жыццё выкладаў ва ўніверсітэце, прымаў экзамены ў студэнтаў і, паверце, па характару зададзеных пытанняў і адказаў адразу вызначаю ўзровень ведаў чалавека. Я, як жыхар былога СССР, шчыра кажучы, не ў поўнай меры ўяўляю сабе эканоміку Узбекістана, Таджыкістана. Праўда, пахвалюся: крыху разумею ў расійскай.

**— Станіслаў Станіслававіч! Вы ўжо не раз выказвалі свае меркаванні аб увядзенні ў Беларусі інстытута прэзідэнцкай улады. За яе ўжо выступалі шэраг кіраўнікоў урада, палітычных партый рэспублікі. Скажыце, ці змяніліся ў вас адносіны да прэзідэнцтва?**

— Не, не змяніліся. Я не супраць прэзідэнцтва наогул, аднак лічу, што яго ўводзіць трэба не цяпер, а крыху пазней. Я ўжо сказаў, што хацеў бы мець пяцігадовы план развіцця эканомікі. Навошта для яго ажыццяўлення прэзідэнт, калі дастаткова будзе шырокага калектыўнага органа кіравання? Уладныя «закручванні» могуць пашкодзіць.

У бліжэйшы час уводзіць інстытут прэзідэнцтва дастаткова небяспечна. Сёння ж склалася сітуацыя, калі пытанне аб прэзідэнце Беларусі можна вырашыць са стаўкай на канкрэтную асобу. А трэба зрабіць, каб механізм прэзідэнцкай улады працаваў без гэтага. Трэба пачакаць.

Я цудоўна разумею і прымаю тэхнакратычныя довады шэрагу кіраўнікоў, якія імкнуцца хутчэй рэарганізаваць сістэму выканаўчай улады. Яны абумоўлены абмежаваннямі, якія сёння накладзены на гэту ўладу, адсутнасцю дакладнага размежавання яе паўнамоцтваў на розных узроўнях.

**— Хацелася б пагаварыць з Шушкевічам-адпускніком. Як адпачываецца?**

— Цудоўна. Нават нягледзячы на тое, што пракалоў на цвік нагу. Я «пракалваўся» такім чынам, калі яшчэ быў студэнтам. Гэта не сапсавала водпуск.

У Паўднёвую Карэю еду ў час водпуску. Не перапыняю яго, паколькі ўвогуле буду там займацца пытаннямі самаадукацыі. Толькі што чытаў інфармацыю ў спецыяльнай зводцы «Інтэрфакса» аб тым, што віцэ-прэм'ера Расіі Міхаіла Палтараніна абвінавачваюць у тым, што той, быццам, у Японію паехаў за кошт прыватнай фірмы. Хачу адзначыць: я еду ў Сеул па запрашэнню афіцыяльных структур Паўднёвай Карэі. Відаць, прыйдзецца ўсё ж «рассакрэціць» аднаго з членаў сваёй каманды, які складзе ў падарожжы мне кампанію, — акадэміка Анатоля Міхайлава. Яго не страшна «свяціць». Гэта чалавек, з якім па розных пытаннях маем розныя пункты гледжання, але ўзровень яго адукаванасці, мыслення вельмі высокі. Ён вельмі патрыятычна настроены да Беларусі і СНД.

**Вячаслаў ЗЯНЬКОВІЧ.**

### БАНАНАЎ—«АД ПУЗА», А БУЛЬБА—Ў ДЭФІЦЫЦЕ

**ГОМЕЛЬ. (У. Пернікаў). Ці можна ўявіць сабе, каб беларускія дзеці, выгадаваныя на беларускай бульбе, не спажывалі яе цэлы месяц? Вядома ж, не.**

**Але такое здарылася ў піянерскім лагеры «Рамонак». Прычына? Як растлумачылі яго кіраўнікі, увесь запас бульбы (вось гэта быў апетыт, нібы ў таго Гарганцюа!) з'ела дзятва, што адпачывала ў лагеры ў час першага заезду. А як з сокамі і агароднінай было? Таксама слаба. Можа, недахват вітамінаў нейкім чынам умудрыліся кампенсаваць нечым іншым,—цукрам напрыклад? Ды не. Яго выдзялялі ў тры разы менш, чым патрабавалі фізіялагічныя нормы харчавання.**

**І такія факты харчавання хлопчыкаў і дзяўчынак у лагерах вобласці не адзінкавыя. Бо і ў «Лясной казцы» цукру выдавалася казачна мала ад патрэбнасці, а ў піянерскім лагеры імя Барыса Царыкава не было нават смятаны. Першыя стравы тут рыхтаваліся на булёне з касцей, што рабіць у чарнобыльскай зоне катэгарычна забаронена. А ці забяспечваліся ў многіх лагерах нормы спажывання садавіны? Часцей за ўсё так. Але толькі за кошт бананаў, якіх было «ад пуза». Затое зусім адсутнічалі слівы, яблыкі, ігрушы, персікі, якія, як вядома, растуць і выспяваюць у краінах СНД. Ды толькі, відаць, дарослым дзядзькам дамовіцца аб іх пастаўцы адтуль было цяжэй, чым з афрыканцамі.**

### ААН прыкурыць не дасць

ГОМЕЛЬ. (**У. Пернікаў**). Бязрадаснае жыццё наступіла ў курцоў. Пасля таго, як адмянілі талоны на набыццё цыгарэт і папярос, набыць іх стала магчыма толькі ў камерцыйных магазінах ды на рынках у цыганоў ці рознага роду перакупшчыкаў. А там цэны такія, што вочы на лоб лезуць.

Скаргі курцоў у мясцовыя органы ўлады застаюцца пакуль толькі скаргамі. Таму некаторыя з іх пагражаюць звярнуцца ў Арганізацыю Аб'яднаных Нацый: маўляў, парушаюцца правы чалавека. Аднак сумняваемся, каб паважаная ўсімі ААН дала прыкурыць нашай разваленай эканоміцы і на спадачку з блакітнымі беражкамі паднесла курцам цыгарэты.



### РАДЫЁ ФАКТ

Вучэнне Леніна зноў пакладзена ў аснову дзейнасці адроджанай партыі — у Гомелі прайшла абласная ўстаноўчая канферэнцыя партыі камуністаў Беларусі.

***

**Цяжка знайсці зараз чалавека, задаволенага сваім заробкам. І толькі ў Салігорскім вытворчым аб'яднанні «Беларуськалій» на даходы зараз не скардзяцца. Сярэдняя зарплата шахцёраў забойнай групы складае цяпер 22 тысячы рублёў у месяц. А ў перадавых брыгадах нават перавышае 30 тысяч рублёў. Імклівы рост зарплаты тым часам памнажае шматмільённыя даўгі прадпрыемства.**

***

У Віцебскім гарвыканкоме створаны штаб па размініраванню — чарговыя залежы боепрыпасаў з часоў другой сусветнай вайны знайшлі на дне Заходняй Дзвіны.

***

**У Томску выйшлі першыя два тамы Кнігі памяці «Боль людскі», састаўленыя паводле архіваў НКУС. Амаль на кожнай старонцы кнігі прозвішчы нашых землякоў.**

***

У Брэсце раскрыта яшчэ адно злачынства. Зроблены вобыск на санітарна-каранцінным пункце пагранпераходу «Варшаўскі мост». Паводле прызнання спецыялістаў, колькасці медыкаментаў, якія там знойдзены, хапіла б на ўсе бальніцы Брэсцкай вобласці.

***

**Своеасаблівай рэкардсменкай, дастойнай кнігі Гінеса, міжволі стала жыхарка гарадскога пасёлка Дрыбін Настасся Антонаўна Міронава. Ключы ад кватэры ёй выдалі на 80-м годзе жыцця. Да гэтага яна некалькі дзесяцігоддзяў прастаяла ў чарзе.**

### «ЭКАНАМІЧНЫ ПАСЬЯНС»

**Рубрыку вядзе прэзідэнт Беларускай фондавай біржы Леанід ШАТОН**

**Новая рубрыка адрасавана ўсім. Але ў першую чаргу яна датычыць тых, хто ўсур'ёз задумваецца аб сваім месцы ў рынкавым заўтра, калі без нейкіх элементарных ведаў новага эканамічнага механізма абысціся будзе проста немагчыма. Тым больш, як паказвае сённяшні вопыт, грошы — рэч ненадзейная і спадзявацца трэба на новыя формы ўкладання сваіх сродкаў — каштоўныя паперы, акцыі, прыватызацыйныя чэкі і г. д. Што з чым «ядуць» пры новай эканоміцы і будзе тлумачыць гэта рубрыка.**



## ПРЫВАТЫЗАЦЫЙНЫЯ ЧЭКІ: НОВЫЯ ГРОШЫ ЦІ НОВЫЯ ТАЛОНЫ?

Грамадзяне Рэспублікі Беларусь, жанчыны і мужчыны, старыя і дзеці, салдаты і інваліды, здаецца, нарэшце атрымаюць частку ўласнасці «агульнанароднай» дзяржавы ў прыватную ўласнасць у выглядзе прыватызацыйнага чэка, ці чэкавай кніжкі. Кожны чэк будзе мець намінальны кошт у нацыянальнай валюце (рублях) — колькасць, у якой выражаны сучасны кошт створаных намі, нашымі бацькамі, дзядамі і прадзедамі матэрыяльных каштоўнасцей, што належаць перадачы народу беззваротна.

На першы погляд лёгка і проста — атрымаў чэк, купіў частку прадпрыемства ў выглядзе долі або акцыі і валодай, адчувай сябе прыватным уласнікам. І да таго ж справядліва, што намінальны кошт чэкаў у розных людзей розны. Пражыў больш — атрымай больш, а калі яшчэ і працаваў усё жыццё, тады дзяржава дабавіць сорак працэнтаў да той сумы, якую грамадзянін атрымаў бы, калі б усё жыццё «ляжаў на печы». Тут адзін чытач усміхнецца, другі раззлуецца—каэфіцыент не той! Але пісаць артыкул дзеля абмеркавання каэфіцыентаў я не стаў бы. Пазнаёміўшыся з рынкам каштоўных папер, я бачу, што задума з прыватызацыйнымі чэкамі ў залежнасці ад варыянта яе рэалізацыі можа стаць як стартам да эканамічнага росквіту рэспублікі, так і вялікім падманам народа, аб якім будуць хадзіць шматлікія анекдоты. Чэкі — гэта сур'ёзна.

Для адных яны будуць увасабляць у сабе палітычныя шалі, для кагосьці — другую пенсію. Таму думаю, што некаторыя каментарыі да двух праектаў законаў Рэспублікі Беларусь, якія павінны быць прыняты на бліжэйшай сесіі — «Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў РБ» і «Аб імянных чэкавых кніжках у РБ» — дапамогуць людзям зрабіць першы крок у рынкавую эканоміку больш упэўнена.

Асноўнымі фігурамі ў гульні, якую мы называем раздзяржаўленнем і прыватызацыяй, з'яўляюцца: 1) дзяржава ў асобе Дзяржкаммаёмасці як распараджальніка дзяржуласнасці і фонду дзяржмаёмасці як трымальніка гэтай уласнасці; 2) шматлікія прадпрыемствы, якія сёння належаць дзяржаве; 3) інвестары — гэта мы з вамі ўладальнікі чэкаў і грашовых сродкаў, і, нарэшце, 4) новая фармацыя —рынак каштоўных папер, які складаецца з фондавай біржы, прафесіянальных удзельнікаў рынку каштоўных папер, прасцей кажучы, пасрэднікаў, што ажыццяўляюць куплю і продаж каштоўных папер, і Дзяржаўнай інспекцыі па каштоўных паперах. Правілы гульні запісаны ў двух законах, названых вышэй, а таксама ў Законе РБ «Аб каштоўных паперах і фондавых біржах», «Аб прадпрыемствах», «Аб уласнасці», «Аб інвестыцыях» і іншых, ужо прынятых парламентам.

Кожная з дзеючых фігур робіць хады па-рознаму. Урадавыя органы выдаюць пастановы і інструкцыі, па якіх працуюць аддзелы і камісіі, фінансуюць патрэбныя праекты і ігнаруюць усё астатнія. Прадпрыемствы у асобе дырэкцыі іншы раз хочуць прыватызавацца, але ў пераважнай большасці выпадкаў не жадаюць гэтага рабіць, выпускаючы прадукцыю і «выбіваючы» інвестыцыі, — а калі грошай не даюць, выводзяць рабочых на

(Заканчэнне на 2-й стар.).

